ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№3 (48) сакавік 2015 год

CATHOLICNEWS.BY


Кардынал П'етра Паралін з прэм'ер-міністрам Беларусі Андрэем Кабяковым ля Дома ўрада ў Мінску. *Фота Аляксандры Шчыглінскай, catholic.by*

# Дзяржсакратар Апостальскай Сталіцы наведаў Беларусь

**Пакуль беларускія вернікі з надзеяй чакаюць прыезду Святога Айца, другі раз за гісторыю незалежнасці нашу краіну наведаў Дзяржаўны Сакратар Папы Рымскага. З 12 да 15 сакавіка 2015 года ў Беларусі з афіцыйным візітам знаходзіўся кардынал П'етра Паралін.**

■ **а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*

Візіт адбыўся па запрашэнні беларускіх уладаў на фоне паляпшэння адносінаў паміж беларускай дзяржавай і еўрапейскімі краінамі, а таксама пасля нядаўніх крытычных выказванняў прадстаўнікоў улады у бок Каталіцкага Касцёла ў Беларусі.

Паводле думкі аналітыкаў, беларускія ўлады разлічваюць на падтрымку Ватыкана ў дыпламатычнай сферы ў працэсе нармалізацыі адносін з Захадам. Каталіцкі ж бок разлічвае на садзейнічанне ў стварэнні каталіцкай вышэйшай навучальнай установы, а таксама на пэўныя зрухі ў падпісанні канкардату з дзяржавай, якія вызначыць юрыдычныя аспекты ўзаемадзеяння паміж дзяржавай і Касцёлам.

*Працяг на стар. 2*

## Што Касцёл кажа пра курэнне?

*Чытайце на старонцы 3*



## Нужно ли бояться одиночества? И как с ним справиться?

*Чытайце на старонцы 6*



## Колькі часу беларусы прысвячаюць Богу?

*Чытайце на старонцы 5*



# Дзяржсакратар Апостальскай Сталіцы наведаў Беларусь

Пачатак на старонцы 1



**Беларуская моладзь дзякуе кардыналу П'етра Параліну за візіт.**
*Фота Марыны Сінкевіч*

### Усе кажуць пра магчымы прыезд Папы ў Беларусь

Адбыліся сутрэчы ватыканскага іерарха з Прэзідэнтам Беларусі, прэм'ер-міністрам, старшынёй Савета Рэспублікі, міністрам замежных спраў. Падчас сустрэчы Дзяржсакратара з прэм'ер-міністрам Беларусі Андрэй Кабякоў адзначыў, што ў краіне разглядаюць яго візіт як сведчанне гатоўнасці Святога Пасада да актывізацыі супрацоўніцтва з Беларуссю, і ўрад надае вялікае значэнне развіццю сяброўскіх адносін з Ватыканам ва ўсіх сферах. Прэм'ер-міністр заўважыў, што "беларускія вернікі з нецярпеннем чакаюць візіту Пантыфіка". Таксама старшыня Савета Рэспублікі Міхаіл Мясніковіч выказаў пажаданне, каб візіт кардынала П'етра Параліна ў Беларусь, дыялог на найвышэйшым узроўні спрыяў таму, каб адбыўся візіт у нашу краіну Папы Францішка.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў сваёй размове з кардыналам паведаміў пра чаканні беларускіх уладаў адносна развіцця Каталіцкага Касцёла ў Беларусі: "Мы хацелі б, каб у Царкве працавала больш мясцовых каталіцкіх святароў. (...) Таму і будаўніцтва ў Беларусі і прадстаўніцтва Ватыкана, і адукацыйнай акадэміі было маёй ініцыятывай".

Па выніках сустрэч з прадстаўнікамі ўлады Дзяржсакратар-кардынал П'етра Паралін падчас прэс-канферэнцыі ў Мінску 14 сакавіка 2015 г. адзначыў, што каталіцкая супольнасць Беларусі заслугоўвае візіту Папы Францішка. "Я думаю, што гэта пажаданне заслугоўвае задавальнення, як з улікам таго досведу пакутаў, які перанесла каталіцкая супольнасць Беларусі, так і з улікам яе ўкладу ў станаўленне, аднаўленне і развіццё рэлігійнага жыцця ў Беларусі", – сказаў ватыканскі іерарх.

Кардынал Паралін падкрэсліў, што акрамя жадання самой каталіцкай супольнасці Беларусі, запрашэнні адносна візіту Папы Францішка паступілі таксама ад усіх галінаў дзяржаўнай улады. "Гэта запрашэнне і жаданне ўбачыць Папу Францішка на беларускай зямлі было агульным элементам маіх сустрэч у дзяржаўных органах", – дадаў ён.

### Што з канкардатам?

Кажучы пра тое, на якім этапе цяпер знаходзіцца падрыхтоўка канкардату паміж Беларуссю і Ватыканам, кардынал адзначыў: "Падрыхтоўка канкардату ў дарозе". Гэтае пытанне, па словах іерарха, абмяркоўвалася таксама падчас яго сустрэч у дзяржаўных органах Беларусі.

Вечарам 14 сакавіка 2015 г. Дзяржсакратар Яго Святасці Папы Францішка прыбыў на велікапоснае начное чуванне моладзі. Кардынал Паралін здзіўляўся, усміхаўся, апладзіраваў, уважліва слухаў моладзь – будучае Касцёла. Як паведамляе Беларуская служба Ватыканскага радыё, маладым вернікам удалося задаць некалькі пытанняў прадстаўніку Папы Францішка: напрыклад, пра будаўніцтва каталіцкай акадэміі і, вядома, пра візіт Пантыфіка ў Беларусь. Іерарх, адказваючы жартам пра перспектыву прыезду Папы, адзначыў, што жаданню моладзі Святы Айцец не здолее супрацьстаяць.

### Трэба змагацца за сваю веру

Падчас Святой Імшы 15 сакавіка 2015 г. у мінскім архікатэдральным саборы Найсвяцейшай Панны Марыі Кардынал Паралін закрануў шэраг блізкіх беларускаму сэрцу тэмаў у сваёй гаміліі. У яе тэксце іерарх запэўніў, што Папа вельмі жадаў бы быць сярод беларускіх вернікаў, але пакуль пэўныя абставіны не дазваляюць гэтага зрабіць, ён скіраваў сюды свайго пасланніка.

"Папа добра ведае, што вас вельмі шмат у гэтай краіне, і што ў вашай гісторыі былі па-сапраўднаму складаныя моманты. Яшчэ зусім нядаўна святары дэпартаваліся, касцёлы разбураліся, супольнасці разганяліся, у той час як добра арганізаваная і настойлівая прапаганда намагалася выкрасліць з сэрцаў вернікаў вобраз Божы. Не ведалі, што гэты вобраз нельга выкрасліць, таму што ён быў глыбока ўпісаны рукой самога Бога", – падкрэсліў кардынал Паралін.

Пасланнік Святога Айца заклікаў беларускіх вернікаў працягваць змагацца за сваю веру – змагацца супраць маленькіх ідалаў, якія хочуць заняць месца Бога: ілюзіі лёгкага абагачэння, страты адчування дабра і зла, абыякавасці, хаджэння ў касцёл толькі праз звычку, усведамлення сябе каталікамі толькі як этнічнай ідэнтычнасці, жыцця без сэнсу, без мэты і без напрамку, праслаўлення Бога вуснамі, а не сэрцам.

Візіт высокага прадстаўніка Каталіцкага Касцёла завяршыўся, а каталіцкая супольнасць нашай краіны з надзеяй верыць у тое, што гэтая падзея адкрые новыя перспектывы для жыцця веры і магчымасці рэалізаваць духоўныя патрэбы беларускага народа. Прыезд жа Святога Айца стане не толькі візітам ветлівасці, а сапраўдным сведчаннем таго, што "на Беларусі Бог жыве".

## У Вялікі Чацвер Папа Францішак абмые ногі вязням

**У Вялікі Чацвер, 2 красавіка, Пантыфік узначаліць святую Імшу Вячэры Пана ў рымскай турме "Рэбібія". Эўхарыстыя адбудзецца ў касцёле новага комплексу гэтай пенітэнцыярнай установы.**

У ёй прымуць удзел многія зняволеныя – як мужчыны, так і жанчыны. Дванаццаці з іх Папа Францішак абмые ногі, згодна з абрадам, уласцівым гэтай літургіі.

Традыцыю цэлебрацыі святой Імшы Вячэры Пана ў адной з турмаў, бальніц ці прытулкаў для бедных і выкінутых на ўзбочыну сацыяльнага жыцця Папа Францішак прынёс са свайго душпастырскага досведу служэння ў якасці арцыбіскупа Буэнас-Айрэса. У папярэднія два гады свайго пантыфікату ён цэлебраваў гэту літургію ў рымскай калоніі для непаўналетніх "Casal del Marmo" і ў сацыяльным цэнтры "Santa Maria della Provvidenza", у якім пражываюць пажылыя асобы і людзі з абмежаванымі магчымасцямі.



Папа Францішак стане трэцім Пантыфікам, які наведае рымскую турму "Рэбібія". У 1983 г. тут быў св. Ян Павел II, а ў 2011 г. – Папа Бэнэдыкт XVI.

*Ватыканскае радыё*

## Як правільна сказаць па-беларуску: "Якая заўтра будзе пагода?" ці "Якое заўтра будзе надвор'е?"

**У моўнай практыцы, асабліва ў вуснай камунікацыі, мы часта сутыкаемся з абедзвюма вынесенымі ў загаловак канструкцыямі. Але ці можна іх ужываць паралельна? Ці аднолькавае значэнне маюць згаданыя пытальныя сказы? Паспрабуем разабрацца.**

**Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Згодна з "Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы" (ТСБМ), *пагода* – "стан атмасферы ў данай мясцовасці". Сухая пагода. Марозная пагода (Т. 3, 1979. – с. 496). *Надвор'е* – "стан атмасферы ў пэўны час у пэўным месцы". Добрае надвор'е. Дрэннае надвор'е. Зводка надвор'я. (Тамсама, с. 234). Як бачна, у выдадзеным трыццаць пяць гадоў таму назад слоўніку па сутнасці не робіцца семантычнага размежавання гэтых двух слоў. Дарэчы, і ў "Беларускарасійскім слоўніку" М. Байкова і С. Некрашэвіча (1925 г.) чытаем тое ж самае: *"Надвор'е – пагода"* (с. 178). Але гэты факт не павінен уводзіць у зман шараговага карыстальніка нашай мовы.

У сучаснай маўленчай практыцы выразна акрэслілася сэнсавае адрозненне назоўнікаў *пагода* і *надвор'е*. *Пагода* – гэта выключна станоўчая характарыстыка стану атмасферы ў канкрэтным месцы і ў канкрэтны час. Пагода, іншымі словамі, не можа быць кепская, як і не патрабуе ніякіх удакладненняў ці эпітэтаў. Таму нельга сказаць, напрыклад, *добрая пагода, дрэнная пагода, сонечная пагода.* Мы проста канстатуем: На дварэ сёння пагода; Заўтра таксама будзе пагода, маючы на ўвазе добрае, цёплае, сонечнае надвор'е. Гэта пацвярджаецца і вытворнымі ад слова *пагода* лексемамі. Звернемся зноў да ТСБМ (Т. 3, с. 496): *Пагодлівы, пагодны* – "добры, ясны, цёплы". Пагодзіцца – "рабіцца пагодлівым" (*Дзень раздумаў пагодзіцца, і светлаватыя хмары віселі над ракой.* Уладзімір Караткевіч). Або яшчэ *распагодзіцца* – "стаць ясным, пагодным". *Было зусім ціха. Распагодзілася.* Якуб Колас (ТСБМ, Т.4, с. 657).

Праф.П.Сцяцкозвяртае ўвагу, што і "ўстойлівыя выслоўі, прымаўкі маюць слова *пагода* толькі з значэннем "добрае надвор'е": *Дым слупамі на пагоду падымаецца ўгару. Чакаць з мора пагоды. Хто дажджом косіць, той пагодаю сушыць"* (Сцяцко П. Культура мовы. – Мінск, 2002. – с. 134).

Назоўнік *надвор'е*, наадварот, патрабуе ў кантэксце адпаведнага азначэння, калі, зразумела, не выступае ў якасці загалоўка, а характарызуе "стан атмасферы ў пэўны час". Гэта значыць, мы можам сказаць *Сонечнае надвор'е; Дажджлівае надвор'е; Марознае надвор'е* і г.д. Але для абазначэння няспрыяльнага стану атмасферы таксама выкарыстоўваюцца і лексемы *непагода* або *непагадзь*. Можна сказаць: *На дварэ непагадзь* або *Заўтра зноў абяцаюць непагоду.* Прыгадаем тут і купалаўскія радкі: *"Не гудзі так, восень, непагодай дзікай".*

Такім чынам, слова *пагода* можа выкарыстоўвацца толькі для характарыстыкі яснага, сонечнага, цёплага надвор'я і не мае пры сабе ніякіх прыметнікаўазначэнняў. А назоўнік *надвор'е* пры апісанні канкрэтнага стану атмасферы абавязкова ўдакладняецца адпаведнымі эпітэтамі. Таму і пытанне мы мусім задаваць так: "Якое заўтра будзе надвор'е?" або "Ці будзе заўтра пагода?"

# Што Касцёл кажа пра курэнне?

*“Хвала Хрысту! Мяне цікавіць пытанне курэння і як з ім змагацца?”*
*Ян*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD:**

– Пытанне пра курэнне і спосабы змагання з ім даволі складанае і закранае некалькі аспектаў жыцця чалавечай асобы: фізіялагічны, маральны, псіхалагічны і духоўны. Напачатку паспрабуем высветліць прыроду курэння, даць маральную ацэнку гэтай з'явы, каб пазней прапанаваць нейкія практычныя парады.

## Сутнасць курэння

Курэнне – гэта адна з найбольш распаўсюджаных залежнасцяў сучаснага чалавека. Паводле агульнадаступных дадзеных, гэтая праблема датычыць больш за мільярд сясцёр і братоў чалавечай сям’і ва ўсім свеце. Тытунь вядомы ад стагоддзяў, аднак на працягу гісторыі змяняліся формы і спосабы выкарыстання гэтай расліны. Найбольш распаўсюджаная форма ўжывання тытуню – гэта яго курэнне ў выглядзе цыгарэтаў, сігараў ці люлькі. Хутка пасля з’яўлення тытуню ў Еўропе былі напісаныя першыя трактаты пра яго шкоднасць, а Папа Інакенцій X у 1650 годзе забараніў вернікам курыць тытунь.

Навуковыя даследаванні даказалі адмоўны ўплыў на здароўе чалавека рэчываў, якія ўтрымлівае дым тытуню. Сучасная медыцына бачыць у курэнні прычыну розных хваробаў, у тым ліку анкалагічных. Зрэшты, не трэба быць навукоўцам ці медыкам, каб заўважыць дрэнныя наступствы курэння, пачынаючы хоць бы ад эстэтычных, такіх, як непрыемны пах, жоўтыя пальцы і зубы, ці ўрэшце – змену колеру твару, голасу, праблемы з сэрцам і фізічнай актыўнасцю. Трэба дадаць, што курэнне, якое робіць чалавека залежным, не толькі нішчыць здароўе самога курца, але і шкодзіць тым, хто побач. Да таго ж і шмат каштуе. Тым не менш, памеры гэтай з’явы вельмі вялікія і датычаць людзей амаль усіх узростаў па ўсім свеце. Дзякуй Богу, сёння веды пра шкоднасць курэння шырока распаўсюджаныя, і яно становіцца ўсё больш нямодным.

## Маральная ацэнка курэння

Курэнне тытуню трэба разглядаць у плане разважання пра пятую запаведзь: “Не забівай!” Паводле навучання Касцёла, гэтая запаведзь забараняе не толькі прамое забойства, знішчэнне жыцця невінаватага чалавека, але і неапраўданую рызыку для здароўя і жыццё ў стане небяспекі. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла ў нумары 2290 вучыць пра цноту памяркоўнасці, якая робіць чалавека здольным пазбегнуць усялякіх злоўжыванняў адносна ежы, алкаголю, тытуню і лекаў. Святое Пісанне хоць не кажа нічога пра курэнне непасрэдна, але падае прынцыпы, якія могуць асвятліць пастаўленую праблему. Святы Павел навучае: *“Усё мне можна, але не ўсё карысна. Усё мне можна, але нічым не дам сябе зняволіць”* (1 Кар 6, 12). Чалавек, які ўцягваецца ў курэнне, дарэчы, па сваёй віне і добраахвотна, паступова трапляе ў залежнасць, якую, без сумненняў, можам назваць нейкай формай зняволення, няхай не самага вялікага, аднак зняволення, бо з цягам часу курэц адчувае моцную патрэбу курыць як на фізіялагічным, так і на псіхалагічным узроўнях. Курэнне нельга лічыць карысным, бо яно шкоднае для духу і цела, у якім Апостал Народаў заклікае да праслаўлення Бога: *“Праслаўляйце Бога ў целе вашым”* (1 Кар 6, 20). Таксама ў агульны прынцып, пададзены святым Паўлам: *“Ці ясце, ці п’яце, ці нешта робіце, – усё рабіце на славу Божую”* (1 Кар 10, 31) не ўпісваецца курэнне.

Як было сказана вышэй, Катэхізіс не забараняе курэнне, але патрабуе ад вернікаў памяркоўнасці і заклікае пазбягаць злоўжывання. Вопыт вучыць, што нават “памяркоўнае” ўжыванне тытуню часцей за ўсё вядзе да залежнасці. З пункту гледжання маральнай тэалогіі, звычка, гэта значыць залежнасць, памяншае адказнасць за дрэнны чын. Таму асоба, якая імкнецца кінуць курэнне, не мае цяжкага граху і не абавязана спавядацца перад кожным прыняццем Святой Камуніі. **Курэнне не можа стаць цяжкім грахом, калі хтосьці курыць, напрыклад, у часе сур’ёзнай хваробы, у прысутнасці іншых людзей, у дзяцінстве ці падлеткавым узросце.** Асабліва неразважлівым і грахоўным ёсць курэнне маці, бацькі і родных, якія чакаюць дзіця. Грахом трэба лічыць вучэнне і ўцягванне іншага чалавека ў такую залежнасць.



## Змаганне з курэннем

Нікацінавая залежнасць датычыць значнай часткі людзей рознага стану, узросту, розных прафесій і пакліканняў. Змаганне з залежнасцю ад нікаціну – гэта складаны працэс, які патрабуе ад чалавека не толькі ведаў ці свядомасці, але перадусім рашучасці і моцнай волі. Трэба памятаць, што нікацінавая залежнасць фарміруецца вельмі хутка: дастаткова выкурыць некалькі цыгарэтаў, каб пазней адчуваць патрэбу ізноў курыць. У сувязі з гэтым чалавек, які жадае кінуць курэнне, павінен памятаць, што гэта звязана з пэўным цярпеннем на ўзроўні і фізіялагічным, і псіхалагічным. Дзеля змагання з гэтай залежнасцю патрэбна добра падрыхтавацца: знайсці адпаведныя заняткі, упарадкаваць сваё эмацыянальнае жыццё, моцна хацець жыць без цыгарэты ды пазбягаць магчымасці курыць. Верніку больш чым практыкаванне моцнай волі, якое вельмі важнае, дапамагае давер Пану Богу: менавіта Ён можа перамагчы чалавечую слабасць. Вернікі, якія кінулі курэнне, сведчаць, што дапамагла ім шчырая, даверлівая малітва, розныя навэны, у тым ліку Пампейская, удзел у духоўных практыкаваннях, наведванне святых месцаў ці малітвы святароў пра вызваленне, асабліва харызматычных. Свядомы, поўны веры і даверу ўдзел у Святой Імшы, частае прыняцце Найсвяцейшага Цела Пана, споведзь, малітоўная і маральная падтрымка з боку супольнасці, родных і сяброў, а таксама асабісты сур’ёзны падыход да праблемы – гэта надзейная дарога да поўнага вызвалення ад нікацінавай ды іншых залежнасцяў.

Варта ўсвядоміць сабе патрэбу пастаянна ці то прыватна, ці падчас розных літургічных цэлебрацый узносіць да Бога малітвы аб вызваленні нашых сясцёр і братоў ад усялякіх залежнасцяў.

# Ліст абурэння

*Я, стары вернік-католік, таксама абураны заявамі спадара Гулякі. Прыведзеныя ім выпадкі парушэнняў бязадрасныя. Гэта вядомыя нам выступленні даўніх часоў. А назваць сябе ксяндзом можа ўсякі парушальнік.*

*Ксяндзы з Польшчы нам вельмі дапамаглі і працягваюць дапамагаць. У нас, у Віцебску, да 1937 года было 7 касцёлаў. А потым іх узарвалі. Мы жылі без веры і за 70 гадоў зразумелі, да чаго гэта прывяло.*

*Цяпер пачалі навяртацца да Бога. Святароў давялося запрашаць з Польшчы, таму што яны блізкія нам па мове і побыце, а галоўнае – па веры. Ксяндзы, якія згадзіліся працаваць у нас, вельмі адданыя нашай хрысціянскай веры. Яны не пабаяліся, што ўмовы жыцця і побыту нельга параўнаць з польскімі. Сярод іх многія будаўнікі, прарабы, архітэктары. Напрыклад, у нас, у Віцебску, толькі дзякуючы ўмеласці і таленту ксяндза Тадэвуша Кахановіча змаглі з непатрэбных гораду развалін, фактычна з нуля адбудаваць два такія добраўпарадкаваныя і прыгожыя касцёлы. Хоць улады і выслалі з Беларусі ксяндза Тадэвуша, але пабудаваныя ім касцёлы засталіся нашым дзецям і ўнукам.*

*Мы, вернікі, будзем доўга ўдзячныя за яго намаганні і працу для нас. Мы ўсе бачылі, як ён гэтыя 10 гадоў завіхаўся на будоўлі цэлымі днямі ў ботах і ў будаўнічай вопратцы, сам працаваў і падказваў будаўнікам і вернікам, якія дапамагалі. Ён быў майстрам з залатымі рукамі: і цесляром, і ўкладчыкам пліткі на падлогі і сцены, і ўмеў многае-многае іншае, што патрэбна для ўзвядзення такога будынка.*

*Мы дзякуем Пану Богу, а таксама братняму славянскаму народу-суседу, за тое, што быў у нас такі таленавіты святар.*

***Віталь Леановіч,***
*г. Віцебск,*
*парафія Святога Духа*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення Св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю Св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю Св. Імшы.




Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***“Каталіцкі Веснік”***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на Св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую Св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе Св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на Св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*“Каталіцкага Весніка”*

## Інтэнцыя Св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя Св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена Св. Імша) | |

# Кардынал П'етра Паралін: "Беларусы – гэта народ з моцнай, глыбокай, укаранёнай верай"

**Кардынал П'етра Паралін 15 сакавіка 2015 года даў інтэрв'ю каталіцкім СМІ, у якім падвёў вынікі свайго візіту ў Беларусь. Дзяржсакратар Яго Святасці Папы падзяліўся з "Каталіцкім Веснікам", інтэрнэт-парталам Catholic.by і Ватыканскім радыё сваімі ўражаннямі ад шматлікіх сустрэч на высокім дзяржаўным і касцельным узроўнях, выказаўся наконт патрэбы і магчымасці стварэння новых дыяцэзій у Беларусі, распавёў пра пагляд Святога Пасаду на кантакты з Маскоўскім Патрыярхатам, скіраваў адмысловае пасланне да беларускага каталіцкага духавенства.**

**Catholic.by:**
**– Які вобраз беларуса Вы павезяце ў Рым?**

– Я павязу ў Рым, перш за ўсё, вобраз тых сустрэч, якія я меў з хрысціянскай супольнасцю. Гэта мяне найглыбей уразіла. Яны былі не ў першай частцы майго візіту, а ў апошняй, але я быў па-сапраўднаму ўражаны і ўзрушаны ўдзелам людзей у набажэнствах, як учора вечарам, так і сёння раніцай. Такім чынам, я забяру з сабой вобраз народа з вельмі моцнай, глыбокай, укаранёнай верай. Усё гэта было карысна таксама і для мяне, таму што, безумоўна, падчас сустрэч мы штосьці даём, але таксама і атрымліваем. Я б сказаў, што з гэтага пункту гледжання, я атрымаў нашмат больш, чым даў.

**"Каталіцкі Веснік":**
**– Пасля Вашай сустрэчы з Мітрапалітам Паўлам ён сказаў, што ў адносінах з Касцёлам Праваслаўная Царква не кажа пра экуменізм і экуменічнае збліжэнне. Што наконт Касцёла? Якое паняцце сёння Касцёл укладае ў слова "экуменізм"?**

– Для Каталіцкага Касцёла, я думаю, значэнне экуменічнага руху вельмі яснае. Яно адпавядае гарачаму жаданню, выказанаму Езусам падчас Апошняй Вячэры: "Каб усе былі адно". Такім чынам, гаворка ідзе пра пошук адзінства паміж хрысціянамі, пра ўсе ініцыятывы, прапановы і дзейнасць на розных узроўнях, якія павінны весці да гэтага адзінства. Мне здаецца, што Каталіцкі Касцёл з часоў ІІ Ватыканскага Сабора (канешне, падчас яго Касцёл сабраў плёны руху, які пачаўся нашмат раней) рашуча крочыць па гэтым шляху.

Касцёл ведае, што гэты шлях нялёгкі, ведае, што існуе шмат цяжкасцяў, якія ўжо паступова праявіліся на гэтым шляху, але ён працягвае вельмі ясна і канкрэтна дзейнічаць на гэтым узроўні. Гаворка ідзе пра тое, каб рабіць усё магчымае, згодна з Божай воляй, каб дасягнуць бачнага адзінства. Я думаю, што таксама і Папа Францішак выказаў гэта вельмі ясна, яшчэ на пачатку свайго пантыфікату.

Сёння, мне здаецца, патрэба ў пошуку адзінства з'яўляецца абавязкам, яна ўзрасла, і яе ўзмацняе неабходнасць супольнага сведчання аб Евангеллі Пана. Калі мы не будзем паяднанымі, наша сведчанне будзе мець, безумоўна, меншую сілу, будзе менш уплывовым таксама для грамадства і сучаснага свету. У большай ступені гэты шлях выкліканы менавіта неабходнасцю быць сведкамі Пана, Яго Евангелля ў існуючай рэальнасці.

**Ватыканскае радыё:**
**– Некаторыя назіральнікі сцвярджаюць, што Апостальская Сталіца ўдзяляе вялікую ўвагу захаванню добрых адносін з Маскоўскім Патрыярхатам часам за кошт мясцовых каталіцкіх супольнасцяў у краінах з праваслаўнай большасцю. Ці праўда гэта?**

– Адказваючы проста, я скажу – не! Гэта абсалютна не так! Апостальская Сталіца бароніць і падтрымлівае мясцовыя каталіцкія супольнасці. Мы з'яўляемся часткай аднаго Касцёла. Хіба мы як Апостальская Сталіца можам не быць зацікаўленымі ў іх? Я думаю, што былі і існуюць шматлікія, вельмі ясныя пацвярджэнні, знакі гэтага жадання Апостальскай Сталіцы быць побач з імі. Заданне Апостальскай Сталіцы заключаецца ў тым, каб умацоўваць мясцовыя супольнасці, дапамагаць ім. Улічваючы пры гэтым і іншую патрэбу, пра якую ўзгадвалася толькі што.

Такім чынам, шукаецца раўнавага, што часам можа быць складанай, і я гэта прызнаю. Не заўсёды проста крочыць у гэтым напрамку. Але мы імкнёмся з добрай воляй, з вялікімі намаганнямі ўлічваць гэтыя абедзве патрэбы, якія мне здаюцца фундаментальнымі, пра адну з якіх не можна забыцца за кошт другой: рашучую і сур'ёзную падтрымку мясцовых супольнасцяў і адначасова экуменічную дзейнасць, у дадзеным выпадку – у адносінах да Маскоўскага Патрыярхату.

**"Каталіцкі Веснік":**
**– Калі Вы прыляцелі ў Беларусь, Вас віталі хлебам і соллю і падчас св. Імшы прынсілі хлеб. Хлеб у Беларусі сімвалізуе цяжкую працу. У сувязі з гэтым хочацца спытацца, што б Вы хацелі сказаць моладзі, якая працуе, якая шукае працу і людзям, ад якіх залежыць добрае развіццё рынку працы ў Беларусі – нашым уладам?**

– Я ведаю, наколькі мне казалі, што тут адзін з першых клопатаў, у тым ліку для ўладаў, гарантаваць занятасць усяму насельніцтву, і што паказчык беспрацоўя тут вельмі нізкі. Гэта, на мой погляд, цудоўны знак, асабліва ў кантэксце міжнароднай і еўрапейскай панарамы, дзебеспрацоўестановіцца адной з самых галоўных праблем, у першую чаргу, сярод моладзі. Я не маю зараз тут працэнтных паказчыкаў, але існуюць сітуацыі па-сапраўднаму цяжкія і па-сапраўднаму драматычныя. У гэтым сэнсе я думаю і дазволю сабе сказаць, што Беларусь можа стаць таксама прыкладам увагі да таго, што павінна быць адным з прыярытэтаў.

> **"Папа захоўвае беларускіх святароў у сваім сэрцы і заахвочвае іх быць вернымі і радаснымі"**

Я памятаю, як у адным мястэчку ў Умбрыі, калі я ўдзельнічаў у адной з працэсій у гонар св. Ганны, спяваўся гімн, падобны да таго, які спявалі вы пасля св. Імшы (рэд.: у Мінску спявалі гімн "Магутны Божа"). У ім прасілі ў Пана, праз заступніцтва св. Ганны, толькі аб дзвюх рэчах: аб веры і працы. Таму што без працы няма годнасці, без працы няма магчымасці ўтрымліваць самога сябе, уласную сям'ю, а таксама развівацца і развіваць сябе як асобу. Без працы няма будучыні для моладзі. Я думаю, што магу пажадаць, каб захоўвалася гэтая ўвага, каб праца была па-сапраўднаму цэнтральным клопатам палітыкі дзяржавы.

**Ватыканскае радыё:**
**– Ваша Эмінэнцыя, як католік вы ведаеце, наколькі радасна маліцца разам з кіраўніком Паўсюднага Касцёла – з Папам. Вы маеце гэту магчымасць падчас папскіх цэлебрацый. Сотні тысяч беларускіх католікаў марацць аб тым, каб Папа наведаў іх краіну. Што, акрамя малітвы, яны могуць зрабіць, каб гэта мара стала рэальнасцю?**

– Яны ўжо зрабілі шмат у гэтыя дні! У тым, што будзе малітва, я не сумняваўся! Але, канешне, яны прадэманстравалі праз арцыбіскупа Кандрусевіча і іншых пастыраў гэтае моцнае жаданне бачыць Папу на беларускай зямлі. Гэта прадэманстравала моладзь учора вечарам, гэта прадэманстравалі дзеці – гэтага ўжо шмат! Vox populi – vox Dei!

Безумоўна, як я ўжо казаў падчас св. Імшы, маім заданнем будзе перадаць Папу гэту настойлівую просьбу супольнасці вернікаў, выказаную розным чынам, да якой далучаецца таксама жаданне ўладаў. Спадзяёмся, што хутка ўзнікнуць умовы для таго, каб Папа мог прыехаць. Я пажадаў бы працягваць маліцца, а са свайго боку я прыкладу намаганні, каб як мага дакладней пераказаць Папу гэтае жаданне, гэту настойлівую і гарачую просьбу, якую я прыняў апошнімі днямі.

**Ватыканскае радыё:**
**– Ваша Эмінэнцыя, падчас гэтага візіту былі сустрэчы рознага кшталту – з епіскапатам, моладдзю, дзецьмі. Некаторыя святары пыталіся: чаму не было сустрэчы з духавенствам і законнікамі? Магчыма, праз нас Вы б хацелі скіраваць сваё пасланне да нашых беларускіх святароў?**

– Так! З радасцю! Праблема заключалася ў тым, што было мала дзён: я павінен быў запланаваць больш доўгі візіт! Дні выдаліся вельмі насычанымі, і практычна ўвесь час быў заняты. У такой сітуацыі вельмі складана сустрэцца з усімі, але, як я казаў на заканчэнне св. Імшы, я б хацеў, каб усе адчулі сябе заўважанымі і адведанымі. Намер быў такі! Нават калі рэальным чынам зрабіць гэта было немагчыма.

Беларускім святарам я хачу скіраваць вялікае прывітанне – прывітанне сардэчнае і братэрскае, і сказаць ім, што мы блізка, што мы іх падтрымліваем, суправаджаем у іх служэнні, якое часта нялёгкае па прычыне пэўных жыццёвых умоваў, у якіх яны знаходзяцца. Хачу, каб яны ведалі, што Папа іх захоўвае ў сваім сэрцы і заахвочвае іх быць вернымі і радаснымі, каб былі святарамі, здольнымі распаўсюджваць Евангелле ў тым ліку і сваёй радасцю, пачуццём удзячнасці Пану, які іх паклікаў, каб ведалі, што мы падтрымліваем іх у цяжкасцях, молімся за іх і просім іх аб малітве.

**– Дзякуй, Ваша Эмінэнцыя!**

*Размаўлялі:*
***Аксана Ючкавіч, кс. Віктар Місевіч, кс. Аляксандр Амяльчэня***

*Фота:*
***кс. Віктар Місевіч***

*(поўную версію інтэрв'ю чытайце на сайце Catholicnews.by)*



***Віншуем!***

*Паважанаму дырэктару «Карытас» Пінскай дыяцэзіі **ксяндзу-дэкану Паўлу Халяўкіну** з нагоды Дня нараджэння жадаем моцна стаяць на святарскім шляху і заўсёды ўглядацца ў крыж нашага Пана і Яго моцай пераадольваць усе цяжкасці. Няхай Езус дапамагае Вам у Вашым служэнні, а Маці Божая ахінае сваім плашчом. Дзякуем за духоўную еднасць з намі, за паставу, годную пераймання, а таксама за цудоўны прыклад хрысціянскай шчырасці.*

***Парафіяне касцёла Св. Тройцы ў Чарнаўчыцах***

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!** Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Яніна і Ганна Ермаковіч** *(г.п. Падсвілле, Глыбоцкі р-н)*, **Ганна Януковіч** *(Ваўкалата)*, **Абуховіч В.В.** *(Дунілавічы)*, **Алена Балай** *(в. Мосар)*, **Галіна Галуза** *(г.п. Падсвілле)*, **Марыя Матус** *(Валожын)*, **Ганна Курыловіч** *(Новы Пагост)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Івашэнка А.І.** *(Смаргонь)*, **Ірына Мікаілава** *(Глыбокае)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Леакадзія Арлова** *(Паставы)*, парафіяне з Пастаў, парафіяне з Браслава, **Яніна Дулінец** *(в. Савуткі)*, **Лія Мацюшонак** *(в. Прошкава)*, **Сцепаніда Лупач** *(в. Заваравы, Глыбоцкі р-н)*.

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Шчыры дзякуй! Будзьма разам!

**Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"**

# Колькі часу аддаць Богу?

**Малітва – гэта сустрэча з Жывым Богам і размова з Ім. Яднанне з Госпадам у малітве – вялікі скарб, дадзены чалавеку. Колькі часу ў дзень вернікі прысвячаюць Богу, вырашыў даведацца "Каталіцкі Веснік".**

*Ірына Грэйць*



**Таццяна Сабалеўская:**

– Малітва, або размова з Богам, з'яўляецца важнай часткай жыцця хрысціяніна. Асабліва падчас Вялікага посту наша ўвага павінна асаблівым чынам накіроўвацца на гэту адну з найважнейшых хрысціянскіх спраў.

Бог хоча размаўляць з намі. Ён радуецца бязмежна, калі мы прыходзім да Яго не толькі падчас ранішняй і вячэрняй малітвы і нядзельнай Святой Імшы, але і на працягу дня. Не толькі з завучанымі малітвамі з Катэхізісу, але і са сваімі словамі, каб раскрыць перад Ім сваё сэрца, як перад Сябрам. Ён хоча, каб мы пачыналі свой дзень разам з Ім, былі з Ім на працягу дня, а таксама дзякавалі і перапрашалі вечарам. Але гэта не заўсёды так проста здзейсніць у сённяшні імклівы час.

Я стараюся прысвячаць Богу час і размаўляць з Ім на працягу дня. Ранішняя малітва, словы падзякі і просьбы падчас шляху на працу і дамоў. Вечарам больш падрабязная размова праз каронку да Божай Міласэрнасці, ружанец або праслаўленне, спалучаныя з малітвай сваімі словамі і чытаннем Біблії. Ну і рэгулярныя Святыя Імшы і адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту.



**Вольга Вішнякова:**

– Зразумела, малітва – гэта не звычайная размова, і маліцца часам бывае няпроста... Асабліва сучасным маладым людзям, якія не маюць часу на пастаянную малітву. Але для таго, каб узрастаць у святасці, малітва нам неабходная. Праз малітву чалавек набліжаецца да Стваральніка. Калісьці апосталы – вучні Езуса Хрыста – прасілі Яго: "Пане, навучы нас маліцца". Я таксама ў сваіх малітвах часта звяртаюся да Бога з гэтай просьбай... І цяпер, падчас Вялікага посту, узяла сабе пастанову – больш прысвячаць часу Богу і малітве...



**Марат Бузо:**

– На жаль, Богу ў малітве прысвячаю мала часу. Раней прысвячаў больш. Калі вучыўся ў каледжы, быў такі час, што нават кожны дзень удзельнічаў у Святой Імшы. А цяпер зранку дома вельмі рэдка малюся, звычайна ўжо ў машыне, пакуль праграваецца. Малюся ранішняй малітвай і перад дарогай.

Перад працай не малюся, але хачу пачаць гэтую практыку. На працы ніяк не магу вырвацца з калаўроту званкоў, спраў і абавязкаў, каб знайсці час або проста ўспомніць пра малітву. На самай справе гэтая магчымасць ёсць, але я ніяк не магу ёй скарыстацца. Малюся толькі перад і пасля абеду, але незаўсёды. Пасля працы зноў малюся ў машыне, пакуль праграваецца.

Вечарам мы молімся разам з Наташай (жонкай), дзякуем за пражыты дзень, за тое, што атрымалася і не атрымалася, просім пра патрэбныя ласкі для сябе і іншых, чытаем адзін раздзел з Бібліі.

Яшчэ я ўдзельнічаю ў ружанцовай малітоўнай групе, але і на Ружанцы малюся не кожны дзень. Часам проста забываюся. Бывае, успамінаю, а магчымасці няма. Калі вольныя хвіліны з'яўляюцца, не памятаю пра свой абавязак.

Я разумею, што для душы малітва вельмі патрэбная і Бог чакае ад мяне адказу на Яго любоў, але марнасць гэтага свету перамагае мае добрыя памкненні. Але я не здаюся і змагаюся кожны дзень за час для Бога ў маім зямным жыцці. Прашу Бога ў малітве, каб даў мне сілы перамагчы гэтую марнасць і заклапочанасць часовымі зямнымі справамі. Таксама стараюся падчас малітвы знайсці кантакт з жывым Богам, які ва ўсім вакол нас. І таму спадзяюся ў гэты асаблівы перыяд Вялікага посту навучыцца больш часу прысвячаць Богу і па-сапраўднаму якаснай малітве.



**Валерый Доўгань:**

– Адказаць на гэтае пытанне няпроста. Для мяне малітва – частка жыцця, духоўная артэрыя, сіла і камунікаванне з Богам, магчымасць прасіць пра дапамогу. Гэта магчымасць пачуць Бога і зразумець Божую волю адносна сябе і іншых, бо не заўсёды чалавечыя жаданні могуць супадаць з "планамі" Бога. Гэта адна з нагодаў падзякаваць Богу і святым за дапамогу ў цяжкую хвіліну, за спакой у сям'і, у працы, у краіне. У дзень малюся каля гадзіны, таксама і па дарозе на працу і дамоў. Асабліва радуюся, калі атрымліваецца маліцца каля абраза Божай Маці Брэсцкай у пустым касцёле.



**Андрэй Вішнеўскі:**

– Малітва – гэта не проста нейкі набор прыгожых слоў, гэта рэальная размова з Богам. Калі ты молішся, проста паўтараючы знаёмыя словы, то гэтага недастаткова. Неабходна задумвацца над сэнсам кожнага слова, бо з імі мы звяртаемся непасрэдна да Бога. Напрыклад, калі мы размаўляем з сябрамі або роднымі, мы ж думаем, што казаць. Так і з Богам трэба ўдумвацца пры размове.

Я малюся ў асноўным ранкам і ўвечары, але калі адчуваю патрэбу ў малітве, то магу гэта рабіць і па дарозе на працу, і стоячы ў чарзе ў краме. Месца для малітвы не мае прынцыповага значэння, галоўнае – жаданне і шчырасць у адносінах з Ім. Можна маліцца сваімі словамі, важна толькі, каб яны выходзілі з душы. У малітве можна знайсці душэўны супакой, папрасіць Госпада пра штосьці, падзякаваць Яму.

Маліцеся, дзяліцеся з Богам сваімі радасцямі і перажываннямі, Ён адкрыты для кожнага, Ён заўсёды побач і гатовы прыйсці на дапамогу і выслухаць.

## Непрыдуманая гісторыя

**Прачытала ў "Каталіцкім Весніку" апытанне, колькі вернікі даюць на ахвяру. Хачу распавесці пра тое ж. У нас будаваўся касцёл, ксёндз казаў, на што збірае грошы, на якую частку будоўлі, тады давалі па магчымасці.**

Раскажу пра адзін выпадак. У мяне былі грошы толькі на хлеб, і трэба было вырашыць, ці пакласці іх на ахвяраванне, ці пакінуць якраз на хлеб. Я вырашыла іх ахвяраваць, разважыла, што сабе спяку аладкі і пражывём. Пасля святой Імшы зайшла да сяброўкі, а яна і кажа: "Я купіла смачны хлеб, на і табе бохан". Калі я сказала, што ў мяне няма грошай, каб раздлічыцца, сяброўка адказала, што не за грошы дае, а частуе.

Калісьці ў маладосці мая цёця мяне вучыла: "Калі ў цябе праблемы, ідзі ў храм, пакладзі ахвяру і прасі ў Бога дапамогі, калі няма праблемаў, пакладзі ахвяру і падзякуй Богу". І сапраўды, у Бога няма на зямлі такой праблемы, якую б Ён не мог вырашыць. Без Бога не вырашаецца нічога. Толькі людзі разумець гэта не хочуць.

*Часлава Васільева,*
*Расоны*

## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках

**Колькі часу ў дзень Вы прысвячаеце Богу?**




## Віншуем!

*Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Віншуем **ксяндза Генадзя Добрука** з нагоды Дня нараджэння, які ён будзе адзначаць 26 красавіка!*

*Жадаем ксяндзу Генадзю апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, поспехаў у душпастырскай працы, шчаслівага і светлага далейшага святарскага шляху, моцнага здароўя. Няхай Усемагутны Бог асвеціць ласкай яго зямны шлях!*

***З павагай і ўдзячнасцю,***
***вернікі Ідолтаўскай парафіі***

*Хвала Хрысту!*

*Сардэчна віншуем паважанага **біскупа Віцебскага Алега Буткевіча** з нагоды Дня нараджэння! Жадаем плёну ў працы на карысць нашай дыяцэзіі, вытрымкі ў няпростых жыццёвых сітуацыях, моцнага здароўя. Няхай добры Божа і Маці Найсвяцейшая дапамагаюць яму ў гэтым!*

***Вернікі, святары і законныя сёстры***
***Пастаўскай парафіі***
***Св. Антонія Падуанскага***

*Хвала Хрысту!*

*Сардэчна віншуем з нагоды Дня нараджэння (18 сакавіка) нашага паважанага **біскупа Алега Буткевіча!***

*Ад усіх вернікаў Санктуарыя Маці Божай Валадаркі азёраў дасылаем віншаванні і шчырыя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх біскупскіх руках, блаславіць кожны Ваш дзень, хай Маці Божая Валадарка азёраў атуляе Вас сваёй любоўю і апекай і дапамагае ў нялёгкай службе на Божай ніве, а ўсе Святыя Божыя няхай няспынна моляцца за Вас перад Божым Тронам! Жадаем нашаму пастыру плёну ў працы на карысць дыяцэзіі, моцнага здароўя, духоўных і фізічных сілаў, заўсёднай усмешкі на Вашым твары.*

*Вы – гонар нашай парафіі! Шчыра дзякуем Вашым бацькам, што пасеялі зерне веры ў Вашай душы і ахвяравалі Пану Богу! Няхай Пан Бог іх блаславіць!*

***З павагай і ўдзячнасцю, землякі-вернікі,***
***святары, законныя сёстры, парафіяльны***
***хор Браслаўскай парафіі***

*Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Віншуем нашага шаноўнага **святара Ігнацыя Санюту** з Днём народзінаў, які прыпадае на 17 сакавіка. Мы вельмі ўдзячныя Пану Богу, што ў нашай парафіі амаль дзевяць гадоў праціуе сапраўдны пастыр, які ўласным прыкладам вызнання веры і абвяшчэннем слова Божага вядзе нас па дарозе Праўды. Дзякуем за нашых дзяцей і ўнукаў, за памяць, за падтрымку і разуменне, за тое, што наш святар знаходзіць дарогу да кожнага сэрца. Няхай Пан Бог узнагароджвае Вас за добрае і пакорнае сэрца, за павагу да кожнага чалавека, а Найсвяцейшая Панна Марыя хай увесь час мае ў сваёй Мацярынскай апецы! Няхай заступніцтва Багародзіцы – Маці святароў – напоўніць радасцю кожны дзень Вашага няпростага служэння Богу і людзям. Жадаем Вам натхнення ў штодзённых справах, моцы і мужнасці ў выпрабаваннях! Атуляем Вас нашай любоўю і штодзённай малітвай.*

***З павагай, ад прэзідыума Легіёна Марыі***
***«Маці Божай Вастрабрамскай» і парафіян***
***касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў вёсцы***
***Бяльмонты Ірэна Дуброўская***

